


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (1094) ГОД XXII БЕЛАСТОК 13 ЛЮТАГА 1977 г. ЦАНА 60 гр.



Новае Старое Ляўкова.

Фота Я. Цялушэцкага.

Новыя вершы

## ПРОЧКІ

*Пайшоў,*
*за сялом азірнуўся,*
*А следам не выбег ніхто.*
*І вецер плакучы у скрусе*
*Зашпільваў на ім паліто.*
*Спыніўся яшчэ за грудкамі,*
*Заплакаць хацеў, ды стрываў,*
*Як быццам сваімі рукамі*
*Ад сэрца ён штось адрываў.*
*А мог бы ён стаць на калені*
*Прад жонкай, прад сынам сваім.*
*Глухая сцяна адчужэння*
*Устала турэмна за ім.*
*Нічога, падумаў,*
*прывыкну,*
*Забудзецца,*
*пойдзе на лад.*
*А хай бы хто выйшаў,*
*аклікнуў —*
*Без памяці бег бы назад.*

**Казімір Камейша**

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

27 студзеня г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. На ім былі разгледжаны і прыняты гадавая статыстычная анкета і апісальная справаздача аб дзейнасці БГКТ у 1976 годзе. На канец 1976 г. было 6125 членаў БГКТ, згуртаваных у 186 гуртках. Рабочых сярод бэгэкатоўцаў 1162, сялян — 2692, інтэлігенцыі — 1572, вучняў і студэнтаў — 693. Адукацыя членаў БГКТ: падставовая — 2720 асоб, засаднічая завадовая — 1172, сярэдняя — 1750, няпоўна-вышэйшая і вышэйшая — 483. 70% членаў БГКТ — людзі да 30 гадоў.

Прэзідыум таксама выслухаў справаздачу аб рэалізацыі бюджэту ў 1976 г. і разгледзеў праект бюджэту на бягучы год.

Гутарка Дзядзькі Максіма

## І РАСЦІ НАМ У АГЛОБЛЮ...

Было гэта восенню 1944 года. Сяляне маёй вёскі прыступілі да першага азімага севу на свабоднай зямлі. Майму бацьку дапамагаў нейкі сібірак-чырвонаармеец, адзін з тых, што цэлай арміяй стаялі ў нас на адпачынку. Пажылы ўжо ваяка, павесіўшы каробку з жытам сабе на шыю, расставіў шырока ногі, і, пачынаючы сяўбу, прагаласіў:

— *Расці нам жыта ў аглоблю, а бульба — у каляско!* — ды пачаў рассяваць хлебаноснае зерне.

І вось цяпер я думаю пра гэтага сейбіта. Ён неразрыўна спалучаецца ў маім уяўленні з намаганнямі нашай партыі, бо, як адзначыў на VI пленуме Эдвард Герэк, „*...ад пачатку сямідзесятых гадоў справы сельскай гаспадаркі пастаянна знаходзяцца ў цэнтры ўвагі нашай партыі і дзяржавы...*“

Ад восені 1944 года раздзяляе нас цэлая эпоха перамен. У маёй вёсцы, якая

Працяг на стар. 4

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "Ніве"



Начаткі бягучага года прынеслі ў асветных справах важную падзею: у Бельску 24 студзеня адбылася ваяводская канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Прынялі ў ёй удзел беластоцкі куратар **Э. Крынскі,** візітатар з Міністэрства асветы і выхавання **С. Янкоўскі,** старшыня ГП БГКТ **М. Самоцік,** віцэ-куратар **С. Роман,** дырэктар Ваяводскай педагагічнай бібліятэкі і сакратар ГП БГКТ **Я. Зенюк,** візітатары **А. Іванюк** і **С. Крэнтоўскі,** наменнік начальніка Бельска **Л. Парафенюк,** інспектар асветы горада Бельска **В. Нядзведскі.** У цэнтры ўвагі канферэнцыі былі, як адкрываючы яе падкрэсліў С. Роман, настаўнікаў адпаведнай колькасці ахвотных да паступлення на завочнае аддзяленне кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Вельмі вялікую ролю ў павышэнні кваліфікацый нашых педагогаў спаўняюць штогадовыя курсы ў Мінску, у якіх прымалі ўдзел амаль усе настаўнікі беларускай мовы, а некаторыя ўдзельнічалі ў іх некалькі разоў. Куратарыум спадзяецца ад усіх настаўнікаў беларускай мовы поўнага заангажавання ў справу навучання гэтага прадмета, а таксама ў культурна-асветную дзейнасць у сваім асяроддзі, асабліва ў папулярызацыю сярод школьнікаў беларускіх песень, п'ес, інсцэніровак, народных танцаў і т.п.

## АБ НАВУЧАННІ РОДНАЙ МОВЫ

праблемы, звязаныя з навучаннем беларускай мовы, перашкоды і дасягненні ў гэтай галіне, а таксама абмен педагагічным вопытам. Удзельнікі канферэнцыі заслухалі два даклады.

У дакладзе аб арганізацыйным стане навучання беларускай мовы **С. Крэнтоўскі** адзначыў, што ў бягучым годзе беларуская мова выкладаецца ў 52 пачатковых школах і вывучае ў іх яе 4156 дзяцей, г.зн. на звыш 300 дзяцей менней, чым у папярэднім годзе. У двух ліцэях (у Бельску і Гайнаўцы) агулам у 23 класах вучыцца 767 навучэнцаў і іх лік у параўнанні з 1975/76 навучальным годам павялічыўся на 22 асобы. Пра высокі ўзровень навучання ў беларускіх ліцэях красамоўна сведчыць факт, што, напрыклад, 70 працэнтаў выпускнікоў Бельскага ліцэя паспяхова здае экзамены і паступае вучыцца ў вышэйшыя школы. Узровень адукацыі і кваліфікацый настаўнікаў беларускай мовы пачатковых школ і ліцэяў з'яўляецца здавальняючым, але гэта не абазначае, што ўсе яны маюць закончаную вышэйшую адукацыю, якой ад настаўніка патрабуе сучасная школа. На жаль, нягледзячы на значныя намаганні асветныя ўлады не могуць знайсці сярод нашых на-

**А. Іванюк** у дакладзе аб стане навучання беларускай мовы, прадстаўляючы шэраг надзённых праблем, падкрэсліў, што ва ўсіх школах вельмі востра адчуваецца недахоп наглядных дапаможнікаў для навучання гэтага прадмета, настаўнікі разам з вучнямі павінны іх рыхтаваць саматуж. Яшчэ горш выглядае справа з кабінетамі для навучання роднай мовы; такія кабінеты ў поўным сэнсе слова ёсць толькі ў абодвух беларускіх ліцэях, паўстаюць жа ў Трасцянцы, Дубінах, Гарадку, значная частка школ абыходзіцца г.зв. куточкамі беларускай мовы, а ў шэрагу школ няма нічога. Перамагаючы ўсялякія цяжкасці, усё ж неабходна абсталёўваць такія кабінеты, хоць бы ў адным памяшканні з іншым прадметам. Замала настаўнікі прысвячаюць часу, працы і ўвагі вядзенню пазаўрочных заняткаў з вучнямі, асабліва пажадана было б засноўваць гурткі любіцеляў беларускай мовы і праводзіць належна прадуманыя, займальныя заняткі ў іх. Вялікі недахоп кніг на беларускай мове ў школьных бібліятэках крыху папоўніла сваімі кніжнымі ахвяраваннямі ГП БГКТ, але гэта ў асноўным

**(Працяг на стар. 4)**

## ЮЗЭФ ПАЧОСКІ 1864-1942

14 лютага г.г. міне 35 гадоў ад смерці праф. др Юзэфа Пачоскага, аднаго з выдатнейшых знаўцаў флоры ўсходняй Еўропы, стваральніка новай галіны навукі — фітасацыялогіі і тэорыі пантанізму. Пры гэтым выпадку немагчыма не ўспомніць хаця б у вялікім скарачэнні біяграфіі вучонага тым больш, што ён правёў звыш 5 гадоў над даследаваннем флоры Белавежскай пушчы, будучы кіраўніком надлясніцтва „Запаведнік“.

Юзэф Пачоскі нарадзіўся 8.XII.1864 г. у Белагародцы (на Валыні). Хаця быў палякам, дасканала валодаў рускай мовай. У Расіі жыў каля 60 гадоў. Вучыўся ў г.г. Роўна і Умані, але вучобу не закончыў. Выкінулі яго са школы за тое, што штурхнуў (ненаўмысна) на вакзале высокага царскага служачага. Пачоскага гэта не засмуціла. Энергічна ўзяўся за самаадукацыю. Хутка дабіўся небывалых поспехаў. Пачаў вес-

**(Працяг на стар. 5)**






# Пасля прэзідэнцкіх выбараў

20 студзеня Джэймс Картэр прынёс прысягу ў якасці 39-га прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі. Літаральна год назад параўнаўча мала каму вядомы былы губернатар штата Джорджыя Д. Картэр з мэтанакіраванасцю, рашучасцю і энергіяй уступіў у „прэзідэнцкую гонку".

Зыход выбараў быў нечаканым: упершыню за апошнія 44 гады пацярпеў паражэнне кандыдат, які займаў пасаду прэзідэнта і меў магчымасць выкарыстаць для свайго перавыбрання рычагі прэзідэнцкай улады. Наогул, такое ў гісторыі ЗША здаралася толькі двойчы.

Амерыканскі друк піша многа аб „з'яўленні Картэра", аб прычынах яго нечаканай перамогі. Бадай, найбольш коратка і зразумела растлумачыў гэтыя прычыны вядучы аглядальнік кампаніі „Каламбія бродкастынг сістэм" Уолтэр Кранкайт. Каменціруючы вынікі выбараў, ён сказаў:

„Джымі (Джэймс Эрл) Картэр зрабіў гэта ў асноўным дзякуючы таму, што ён як дзяржаўны дзеяч не быў звязаны з Вашынгтонам, але таксама і дзякуючы сваім абяцанням падстрыгчы бюракратыю і ў той жа час расшырыць сацыяльнае забеспячэнне, абяцанням скараціць ваенны бюджэт, правесці падатковую рэформу з тым, каб ускласці большы цяжар на багатых і зрабіць больш чалавечнай знешнюю палітыку".

Сама перадвыбарная кампанія праходзіла ў тыпова амерыканскім стылі — са шматлікімі паездкамі кандыдатаў і мітынгамі, поціскамі соцень тысяч рук і цалаваннем дзяцей, гучнымі абяцаннямі і ўзаемнымі абвінавачваннямі, здарэннямі і скандаламі, дробнымі і буйнымі, лаянкай у адрас адзін аднаго і спробамі падкапацца пад маральную рэпутацыю саперніка.

Пытанні знешняй палітыкі не займалі ў гэтай кампаніі цэнтральнага месца — Амерыка ж 1976 года не ўдзельнічала ў якой-небудзь вайне. Гэтай акалічнасцю карыстаўся Джэральд Форд, ставячы яе ў заслугу сваёй адміністрацыі.

Галоўнымі былі пытанні ўнутранай палітыкі. Па іх многа было нагаворана, многа паабяцана. Калі падсумаваць сказанае, то Картэр, робячы крэн у бок перш за ўсё бедных і малазабяспечаных слаёў насельніцтва, абяцаў галоўную ўвагу ўдзяліць ажыўленню эканамічнай дзейнасці, вырашэнню праблемы беспрацоўя і расшырэнню праграм сацыяльнага забеспячэння. Форд жа, звяртаючыся перш за ўсё да забяспечаных слаёў, асаблівы ўпор рабіў на змяненне падатковай сістэмы, з тым, каб людзі, больш за ўсё тыя, хто плаціць падаткі (г.зн. забяспечаныя), маглі атрымаць льготы і ўкладваць вызваленыя сродкі ў развіццё эканомікі, асабліва прыватнага сектара.

Назіраючы за гэтай кампаніяй, лішні раз пераконваешся, што такое ў сапраўднасці „амерыканская дэмакратыя ў дзеянні". Фармальна па канстытуцыі ЗША прэзідэнтам краіны можа стаць любы амерыканскі грамадзянін, які дасягнуў 35 гадоў. Фактычна ж ім можа стаць або вельмі багаты чалавек, або чалавек, які мае вялікую фінансавую падтрымку, паколькі выбарчая кампанія каштуе кандыдату дзесяткі мільёнаў долараў.

Да 1974 года кандыдаты або фінансавалі самі сябе, або атрымлівалі буйныя ахвяры ад „тлустых катоў" (г.зн. манаполій). У 1974 годзе, пасля уатэргейцкага скандалу, быў прыняты новы закон, паводле якога вядучыя кандыдаты пакрываюць частку сваіх перадвыбарных расходаў за кошт федэральнага бюджэту, г.зн. падаткаплацельшчыкаў. У выніку Картэр і Форд атрымалі па 32,7 мільёна долараў.

Што датычыць лічбавых даных, то, згодна з канчатковымі вынікамі, апублікаванымі 12 снежня 1976 года, на выбарах 2 лістапада прынялі ўдзел 81,7 мільёна выбаршчыкаў. За Картэра было пададзена 40,8 мільёна, а за Форда — 39,1 мільёна галасоў. Астатнія 15 кандыдатаў атрымалі 1,7 мільёна галасоў.

Мае цікавасць і размеркаванне галасоў па слаях насельніцтва. За Картэра галасавала большасць рабочых, беспрацоўных, членаў прафсаюзаў, неграў, моладзі і асоб, якія атрымліваюць не-

(Працяг на стар. 5)




*На здымку: Кнігі зарубежных пісьменнікаў, выдадзеныя ў Беларусі.*
Фота Э. Трыгубовіча

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# ПЛАНЕТА — БЕЛАРУСАМ

У Беларусі ведаюць і цэняць сапраўднае мастацкае слова зарубежных пісьменнікаў. Тысячы людзей самых розных прафесій і ўзростаў зачытваюцца бальзакоўскімі раманамі і андэрсенаўскімі гісторыямі, чытаюць і перачытваюць „Гамлета", „Фауста", „Кола Брун'ёна", „Дон-Кіхота"...

У кніжнай палаце БССР назвалі такія цыфры: з 1946 па 1975 гады ў рэспубліцы выдадзена 369 кніг зарубежных аўтараў (уключаючы калектыўныя зборнікі) агульным тыражом больш 12,5 мільёнаў экземпляраў, у тым ліку на беларускай мове — 209 тыражом каля 3 мільёнаў. Гэтыя кнігі — паслы каля 30 краін свету.

Сапраўды, моцныя вузы мастацкага слова, аб'ядноўваючыя чалавека з чалавекам, краіну з краінай!

Савецкая дзяржава пастаянна клапоціцца аб умацаванні гэтых вузаў, аб расшырэнні і паглыбленні культурных сувязей паміж народамі. Аб гэтым жа, як вядома, гаварылася ў Заключным акце Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. Бо супрацоўніцтва народаў абазначае іх узаемаразуменне, а значыцца, і духоўнае ўзаемаўзбагачэнне, знаёмства з культурным наследствам, традыцыямі і асаблівасцямі розных народаў.

Савецкія людзі, а ў прыватнасці жыхары Беларусі, маюць магчымасць знаёміцца практычна з усімі выдатнымі дасягненнямі сусветнай літаратуры. Беларускія выдавецтвы шматкратна звярталіся і звяртаюцца да твораў яе майстроў.

Творы В. Шэкспіра выпускаліся тут (пачынаючы з 1935 года) 15 разоў — на беларускай, рускай, яўрэйскай мовах, В. Гюго — 12 разоў, Д. Лондана — 11, Ч. Дзікенса — 10, Андэрсена — 8, А. Бальзака — 7, Г. Уэлса — 5, Рабіндраната Тагора — 2 разы. Тройчы выходзіў несмяротны рыцар свабоды і справядлівасці „Дон-Кіхот", двойчы — „Спартак", шэсць разоў — „Авадзень".

Выдадзена каля 300 тысяч экземпляраў кніг В. Гётэ, прыкладна столькі ж — Т. Драйзера, 700 тысяч — М. Твэна, больш мільёна — А. Дзюма. Адзін толькі „Стары і мора" Э. Хэмінгуэя выдадзены тыражом 400 тысяч экземпляраў. Вялікімі тыражамі выпускаліся творы для дзяцей — казкі Ш. Перо, „Прыгоды Гулівера" Д. Свіфта, арабскія казкі. Значнае месца адведзена выданню літаратуры брацкіх сацыялістычных краін. У пасляваенныя гады выйшла каля 50 кніг польскіх пісьменнікаў, неаднаразова выпускаліся творы румынскіх, балгарскіх, чэшскіх, в'етнамскіх аўтараў.

Робіць уражанне дынаміка развіцця кніжных сувязей. Калі з 1966 года па 1970 гады ў Беларусі выйшла 31 выданне зарубежных аўтараў агульным тыражом каля 1,5 мільёна экземпляраў, то ў мінулай пяцігодцы гэтыя цыфры склалі адпаведна 51 і 2,6 мільёна. А ў бягучай пяцігодцы плануецца выдаць 120 кніг тыражом больш 11 мільёнаў экземпляраў.

Сумесна выдаюцца таксама літаратурныя зборнікі. У гэтым годзе ў выдавецтве „Беларусь" выходзіць у свет зборнік артыкулаў беларускіх партызан і нямецкіх камуністаў-падпольшчыкаў, змагаўшыхся супроць фашызму на тэрыторыі Беларусі. (У ГДР гэты зборнік ужо выпушчаны). Усё часцей да творчасці зарубежных майстроў слова звяртаецца перыядычны друк. Шырока прадстаўляецца ў ім слова на старонках часопісаў і газет у дні нацыянальных свят зарубежных краін, а таксама ў час прабывання ў нас замежных дэлегацый.

Паміж вядучымі бібліятэкамі БССР і зарубежных краін пастаянна ідзе кнігаабмен. Так, у даны момант Беларуская дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна абменьваецца фондамі са 175 партнёрамі з 29 краін свету. І гэтыя сувязі таксама ўмацняюцца і развіваюцца з году ў год. У рэспубліцы рэгулярна арганізоўваюцца кніжныя выстаўкі, адкрытыя агляды ў бібліятэках зарубежных кніжных навінак па розных галінах ведаў, збіраючыя тысячы спецыялістаў і проста кнігалюбаў. А загляньце ў любы дом: бадай што ў кожнай сям'і побач з Пушкіным і Янкам Купалам „жывуць" на кніжнай паліцы Шэкспір, Рамэн Ралан, Федэрыка Гарсія Лорка.

Заўсёды шматлюдна ў нашых бібліятэках і кніжных магазінах. Планета дарыць беларусам сваю творчасць і яны з радасцю сустракаюць яе. Невыпадкова і сталічны кніжны магазін, дзе найбольш шырока прадстаўлена замежная літаратура — і перакладная, і арыгінальная, — названы „Дружба".

**С. Заяц**




■ 23 студзеня гарадскі гуртой БГКТ у Беластоку арганізаваў навагоднюю ёлку для дзяцей свайго актыву. Дзед Мароз уручыў усім падарункі.

■ У гэты ж дзень у вясковым доме культуры ў Новаберазове адбыўся агляд беларускай песні Гайнаўскага раёна. У ім узяло ўдзел больш 30 чалавек. У катэгорыі салістаў выступілі: у сучаснай песні — Аляксандра Бонкард са Стачка, што каля Нараўкі, а ў фальклорнай песні — Аліна Юшкевіч са Збуча, Люба Шварц з Дубіч Царкоўных і Мікалай Варанецкі з Альхоўкі. У катэгорыі вакальных калектываў з фальклорнымі песнямі выступалі самадзейнікі з Арэшкава, Скупава, Новаберазова, Грабаўца і Збуча. На фінальны агляд закласіфікаваны салісты — Люба Шварц, Аліна Юшкевіч і Аляксандра Бонкард, з вакальных калектываў — скупаўцы і арэшкаўцы. Усе ўдзельнікі агляду атрымалі рэчавыя ўзнагароды. У арганізацыі агляду вялікую дапамогу аказаў гайнаўскі дом культуры.

■ 24 студзеня Галоўная рэвізійная камісія БГКТ правяла кантроль статутовай і фінансавай дзейнасці ГП БГКТ за 1976 год. (мх)




**Sobota — 12.II.** 6.00 Tech. Rol. Upr. rośl. 6.50 Hod. zwierz. 10.00 Dla szkół: Zool. kl. VII Pierwsze kręgowce. 11.05 Geogr. kl. VIII Polskie osad. w Brazylii. 11.35 Kojak — film ser. 13.45 Tech. Rol. Hod. Zwierz. 14.30 Mech. rol. 15.05 Red. szk. zap. 15.15 Pr. dnia. 15.20 Złoty kaczor — bajka dla dzieci. 15.50 Radzimy rol. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Sobota Mł. 17.40 Kółko i krzyżyk. 18.00 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Strzelby Apaczów — film fab. ameryk. 22.05 Śpiewa H. Vondračkova. 22.25 Dziennik. 22.50 Beniamin, czyli pamiętnik cnotliwego młodzieńca — film fab. fr.

**Niedziela — 13.II.** 6.55 Tech. Rol. Hod. zwierz. 7.25 Mech. rol. 7.55 Nasze spotkania. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Junga z floty północnej — film fab. radz. 12.10 Dziennik. 12.30 Rolnicze rozmowy. 13.00 TYLKO W NIEDZIELĘ.

**Poniedziałek — 14.II.** 12.45 RTV szk. śred. Hist. 13.25 Chem. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.55 Wysoko ku niebu — film ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji: F. X. Kroetz „Górna Austria". 21.25 Camerata. 22.00 Darz Bór — film dok. 22.30 Dziennik.

**Wtorek — 15.II.** 6.00 RTV szk. śred. Hist. 6.30 Chem. 9.00 Mat. dla najmł. 11.30 Film fab. 13.45 Tech. Rol. Hist. 14.30 Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Studio Mł. 17.40 Kółko i krzyżyk. 18.25 Komicy niemego ekranu. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Lucjan Leuven — odc. I filmu ser. fr. 22.15 Hawiarskie drogi — film dok. 22.45 Dziennik.

**Środa — 16.II.** 6.00 Tech. Rol. Hist. 6.30 Mat. 9.00 Dla szkół: Fiz. kl. VI. 11.05 Hist. kl. VII. 12.00 Wych. muz. kl. VII—VIII. 12.45 RTV szk. śred. J. pol. 13.25 Mat. 14.00 W drodze do nowego. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci: Co to jest? 17.30 Los. Mał. Lot. 18.35 Świat, który nie może zaginąć — film dok. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Włóczykij — film fab. wł. 22.45 Dziennik.

**Czwartek — 17.II.** 6.00 RTV szk. śred. J. pol. 6.30 Mat. 11.05 Dla szkół: J. pol. kl. VII. 12.30 Decyzje piętnastolatków. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Bratek przy kominku. 18.00 Poligon. 18.20 Przygoda z nauką. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji: S. Sehułe „Przerwana gra". 21.55 Pegaz. 22.40 Dziennik.

**Piątek — 18.II.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Dla szkół: Geogr. kl. V. 10.00 Geogra. kl. VI. 11.05 Wych. ob. kl. VII. 12.00 Geogr. kl. VII. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Lekt. Pegaza. 17.55 Na śmierć i życie — film ser. bułg. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Film fab. 21.30 Pamiętnik wychowawcy — film ser. wł. 22.45 Dziennik.




**Piątek 11.II.** — 7.30 Filmy anim. 8.00 Film fab. 17.15 Śpiewa A. Ogincew. 18.00 Nasza biografia. 19.30 Hokej. Spartak-Traktor. 20.40 Koncert.

**Sobota 12.II** — 10.15 Koncert życzeń. 12.25 Film fab. 17.35 Komedia film. 19.30 Koncert pios. radz. 20.30 Sport. Wyścigi samoch.

**Niedziela 13.II** — 11.30 Film fab. 17.25 Film fab. 20.35 Koszykówka. Dynamo (Tb.) — CSKA.




**Białowieża** Wąwóz zapomnianych baśni — radz. 15—16. Policjanci — USA 17—18. Ostatnie zadanie — USA 19—20.

**Bielsk Podl.** Ucieczka Mr Mac Kinleya — radz. 15—16. Olśnienie — pol. 17—18. Widmo wolności — fr. 19—20.

**Czyże** Trzecia córka — radz. Hazardziści — pol. 16—20.

**Dubicze Cerkiewne** Być kobietą — ang. Miłość bywa zbrodnią — wł. 16—20.

**Kleszczele** Słodko gorzko — buł. 15—16. Grzech Antoniego Grudy — pol. 17—18. Skazany — pol. 19—20.

**Michałowo** Britanic w niebezpieczeństwie — ang. 15—16. Gdyby Don Juan był kobietą — fr. 17—18. Mgła nie ukryje zdrajcy — rum. 19—20.

**Mielnik** Syndykat zbrodni — USA 16. Żądło — USA 19—20.

**Milejczyce** Zaraza — pol. 15—16. Kazimierz Wielki — pol. 17—18. Mój brat ma fajnego brata — czes. 19—20.

**Narew** Drzewo bez korzeni — buł. Hitler z naszej ulicy — jug. 16—20.

**Narewka** Tak zaczyna się miłość — czes. Największe wydarzenie od czasu, gdy człowiek stanął na księżycu — fr. 16—20.

**Nurzec** Piosenka za koronę — czes. 15—16. Wielki układ — pol. 17—18. W te dni przedwiosenne — pol. 19—20.

**Orla** Moja wojna, moja miłość — pol. Ostatni skok gangu Olsena — duń. — 16—20.

**Rajsk** Granica miłości — węg. Premia — radz. 16—20.

B.Z.Graf. Zam. 369 B-4




## Як Івана да прафесіі прывучалі

Бачыце, кожная праца падрыхтоўкі патрабуе. Нават тыя скрынкі драўляныя і то трэба ўмець збіваць. А, здавалася б, каму-каму, а Івану, суседу майму, які не адзін дом у вёсцы пабудаваў — гэта тое, што плюнуць.

Іван у мінулым годзе ў пошуках лёгкага жыцця ў горад пераехаў. А ў сувязі з тым, што гадоў ужо многа за сябе перакінуў, пачаў працы шукаць. Трэба ж неяк пенсіяй старасць сваю забяспечыць. І паступіў Іван на завод рабочым працаваць, а ў сувязі з тым, што нешта там супольнае з дрэвам меў, скрынкі збіваць паставілі. Схапіў наш Іван малаток, цвікі ды долата і давай дошкі ў скрынкі заменяць. Цвёрда працаваў. А скрыначкі адна ў адну выходзілі. Моцныя, роўненькія. Калі дзень набліжаўся да канца, майстар прыйшоў. Як навічок трымаецца, глянуць захацелася. Стаіць Іван ля сваёй пірамiды і спаглядае ўсміхаючыся то на скрыначкі, то на майстра. Пахвалы чакае.

— Ну, так... Ну, могуць быць... Як на пачатак добрыя. Толькі ты так не спяшайся, не перамучвайся. Тут не так спешна.

На другі дзень Іван яшчэ лепш прылажыўся. Трэба ж паказаць сябе. Мерыць гэтыя дошкі, адрэзвае. Усё мусіць быць роўненька, гладка.

— Дошак не хопіць. Што заўтра рабіць будзеш? — пасмейваліся крывавата рабочыя. — Адпачні. Не на пажары ж. Закуры, як чалавек.

— Я не куру, — за кожным разам адказваў Іван.

Але і на гэты раз майстар пахвалы не даў.

— Нейкія дзіўныя яны ў цябе, — гаварыў. — Другі дзень працуеш і ніяк скумэкаць не можаш. Заўтра двух спецыялістаў па драўлянаму рамяству да цябе прышлю. Паглядзіш.

— Што за ліха? Дзе прычына? — думаў Іван. Столькі дамоў пабудаваў, а простай скрынкі збіць не патраплю?...

Але майстар не падмануў. Прыслаў. Прыйшлі яны і давай паказваць. Прыглядаецца Іван, а яны без ніякага там мерання прыложаць дошку да дошкі, каб між імі нешта падобнае да прамога вугла было, і загоняць цвік, аж галоўка загнецца. Штук дваццаць так наламаталі.

— Ну што, зразумеў? — спытаў майстар.

— Так. Цяпер ведаю. Цяпер паняў.

І ад гэтага часу Іван прыкладным рабочым стаў. Нават курыць навучыўся. А праз пару месяцаў завод рэкламацыі атрымоўваць пачаў, што, моў, тавар замест у скрынках, то ўрассыпную ды да таго перамешаны з нейкімі дошкамі прыходзіць. Але Іван ужо так адолеў сваю прафесію, што аж да самай пенсіі ніякая другая навука змяніць яго не магла.

**Бізун**


ВЕТРАКІ

*Вятрак у Чыжыках.*

*Фота Б. Дамброўскага.*

## Наш каляндар

### АЛЕСЬ ЗВОНАК

Ужо пакінуўшы за сабою парог сталасці, ён параўноўваў свае паэтычныя пошукі з нястомнай працай разведчыка-геолага, што знайшоў такія дзівосныя празрыстыя крышталі, цераз якія відаць ясны свет, а ў ім — *„на кожнай грані радасць і здзіўленне“*. Але доўгія былі шляхі-гасцінцы тварца да гэтага самага простага і самага велічнага адкрыцця, што чалавечае жыццё і навакольны яго свет з'яўляюцца найвялікшым яго цудам.

Нарадзіўся **Алесь Звонак** 14 лютага 1907 года ў Мінску ў сям'і рабочага. Нягледзячы на нялёгкае дзяцінства — ён выхаваўся па-за сям'ёй, у дзіцячым доме — закончыў сярэднюю школу, Беларускі дзяржаўны універсітэт, а затым аспірантуру пры Акадэміі мастацтвазнаўства ў Ленінградзе. У шырокім коле яго зацікаўленняў знайшла месца аднačасова праца ў рэдакцыях літаратурных часопісаў і перакладчыцкая дзейнасць, даследаванне шляхоў развіцця рускага і беларускага тэатраў і іншыя пытанні мастацтвазнаўства, літаратурная крытыка і, перш за ўсё, — уласная паэтычная творчасць. Ужо ў першых вершах, што з'явіліся ў друку ў 1925 г., А. Звонак паказаў сябе як пясняр пачуццёвасці і аптымізму. *„Песні, уздымайцеся сокалам, гордымі крыллямі слоў!“* — усклікае ён. Узнёслым настроем тхне ў першым перыядзе творчасці з усіх яго зборнікаў вершаў: „Буры ў граніце“ (1929 г.), „На лінію агню!“ (1932 г.), „Мая Радзіма“ (1935 г.), а таксама з паэм „Каршун“ (1930 г.) і „Загай“ (1931 г.). Гэты маладнякоўскі бурапеністы пафас гасне ў паэта ў палове трыццатых гадоў. Другі перыяд яго творчасці пранікнуты ўжо глыбокім філасофскім роздумам над сэнсам чалавечага жыцця і змагання, а ў кожным радку вершаў у зборніках „Табе адной“ (1957 г.), „Запаветнае“ (1961 г.) адчуваецца аграмадны вопыт, сабраны аўтарам на абрывістых жыццёвых сцежках. Але ў гэтых творах не знойдзем нават крышынкі расчаравання, і песімізму, бо, як сцвярджае паэт: *„я не зрокся даўніх спадзяванняў, скрозь дым пранёсшы чыстату душы, дзе ўсё — парыў юнацкіх хваляванняў, дзе ўсё — імкненне да крутых вяршынь...“*

(іс)

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове або на рускай мове, прысвечаныя беларускай праблематыцы:

Подпольные партийные организации Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944), 1975, стар. 272, цана 5 зл. 50 гр.

Даведнік энцыклапедычнага характару пра падпольныя абласныя, міжраённыя, раённыя і гарадскія камітэты Камуністычнай партыі Беларусі ў гады нямецкай акупацыі, аб часе іх узнікнення, працягласці працы, персанальным складзе. Для нашых чытачоў асабліва каштоўнымі з'яўляюцца звесткі пра Беластоцкі абком КПБ, а таксама між-




раённыя і раённыя партыйныя камітэты, якія актыўна дзейнічалі ў той час на тэрыторыі сучаснай Беласточчыны.

**Березкин Григорий,** Мир Купалы, 1973, стар. 312, цана 6 зл. 10 гр.

Рускі пераклад манаграфіі, у якой выказаны думкі і назіранні вядомага літаратуразнаўцы пра творчасць Янкі Купалы.

Художники Советской Белоруссии, 1976, стар. 400, цана 29 зл. 60 гр.

Энцыклапедыя з багатымі ілюстрацыямі, якая знаёміць з асноўнымі фактамі жыцця і творчасці беларускіх савецкіх мастакоў (жывапісу, скульптуры, графікі і т.п.). Дасканалая рэч для ўсіх, хто цікавіцца беларускім савецкім мастацтвам.

**Кавалёў Павел,** Жыві сабе, зайчык. 1975, стар. 78, цана 90 гр.

Зборнічак займальных кароценькіх апавяданняў і гумарэсак для дзяцей малодшага школьнага ўзросту.

**Ткачоў Васіль,** Хітры Данік, 1975, стар. 32, цана 70 гр.

Зборнічак апавяданняў для дзяцей малодшага школьнага ўзросту.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki“, 15-089. Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(мг)

## У арлянскіх армоўцаў

Гмінная арганізацыя ОРМО ў Орлі, камендантам якой з'яўляецца Анатоль Мартыновіч, складаецца са 101 члена. Армоўцы дзейнічаюць у дзесяці падраздзяленнях. Тры з іх знаходзяцца ў самай Орлі, у тым ліку адно, у склад якога ўваходзяць настаўнікі, займаецца толькі і выключна справамі непаўналетніх. Арлянскае ОРМО мае аграмадную колькасць служб. Пад яго аховай знаходзіцца 28 аб'ектаў. Іх праца залежыць ад патрэб. Цесна супрацоўнічаюць з мясцовай пажарнай камандай, з якой кожны год сумесна праводзяць вялікую колькасць праверак як на прадпрыемствах, так і на панадворках сялян, мэтай якіх з'яўляецца ліквідацыя нават найменшых недаглядаў у супрацьпажарным забеспячэнні.

Але не толькі гэта. Сочаць яны таксама і за ўтрыманнем парадку. Забяспечваюць забавы, трымаюць варты на прадпрыемствах, сочаць за культурай на дарогах. Апрача аховы ды ўтрымоўвання парадку з'яўляюцца ініцыятарам многіх грамадскіх пачынаў на карысць сваёй гміны. Доказам гэтага з'яўляюцца дарогі, пракладзеныя з Орлі ў Пашкоўшчыну ды Спічкі, або з Пашкоўшчыны ў Кашалі. Супрацоўнічаюць таксама з аховай здароўя. Унутры арлянскага ОРМО ўзнік клуб пачэснага донарства. І тут трэба сказаць, што за мінулы год далі яны аж 11,4 літры крыві, тады, калі Орля ў цэласці дала 20 літраў. Вялікія заслугі ў гэтым Анатоля Мартыновіча.

Вялікая тут колькасць заслужаных арлянскіх армоўцаў: Марыя Кантышава, Сяргей Кубаеўскі, Ян Дэмбарук, Міхал Назарэвіч, Ян Назарэвіч, Павел Рангайла і іншыя.

**М. Ш.**

## 50 кватэр

У першай палавіне гэтага года жыллёвы кааператыў у Васількове (мястэчка пад Беластокам) здасць у эксплуатацыю 50 кватэр (пераважна М-2 і М-3). Будзе гэта апошні жылы блок на адзіным тут дагэтуль жыллёвым пасёлку.

Пасля пабудовы гэтага блока, будаўнічае прадпрыемства пачне будаваць новы жыллёвы пасёлак у іншай частцы мястэчка.

(ця)




### ЖЫЦЦЁ

*Жыці нам ў Народнай Польшчы*
*то ні то, што за цара, —*
*стаў вучыцца меншы, большы,*
*хоч і сын гаспадара.*

*Малады народ вучоны,*
*і ўсім адкрыты свет, —*
*я гару тыя загоны,*
*што гараў калісь мой дзед.*

*Жыў я добра, часам горай,*
*раз згубіў, другі — знайшоў.*
*Добры час у нашы сёлы*
*з дэмакрацыяй прышоў.*

*Пачтальён вязе газету,*
*у яго ты палучай;*
*ў тэлевізары пра свет ты*
*хоч да ранка аглядай.*

*Маем купчае адзежы.*
*Пасталы? Узяў іх чорт.*
*Хлеб прывозят ў вёску свежы.*
*І пірог. Яшчэ і торт.*

*Памалёвана падлога.*
*Добра свеціць жарандоль.*
*Усяго добрага такога*
*ест гасцям падаць на стол.*

*Ест і пралькі, умывалькі,*
*чыстым кожны можа стаць.*
*Тапчаны, універсалькі —*
*мякка спаць і паляжаць.*

*Печы добрыя, кафлёвы,*
*яны грэюць гарачэй.*
*Хоч у вопратцы, у новай,*
*Ні замажаш тут плячэй.*

*Ест жароўкі і разэткі,*
*ноччу відна, як за дня.*
*Хоч давай чытаць газеты*
*для кароў і для каня.*

*І воз добры, баляновы,*
*ўсяго многа ён вязе.*
*Што калёса ў ём гумовы,*
*па выбоях ні трасе.*

*І машыны людзі мают,*
*стаят ў многіх ўва дварэ.*
*Яшчэ ў кулку прынаймают,*
*трактар косіт і арэ.*

*А што чуць ад нас навозам,*
*ну то гэта ні беда, —*
*можно „ІХІ“ браць з паўвоза...*
*і дарэмная вада.*

*Усюды жыць хіба ні цяжка.*
*І у горадзі, і тут*
*хадзіць сталі ў дзеравяшках,*
*усё за модаю бегут.*

**Фёдар Хлябіч**
Рыбакі




*Юльян Фалат — „Нагонка“.*

*У НАШЫХ САМАДЗЕЙНІКАЎ*



*Сцэна з п'есы Бондарава „Агледзіны" ў выкананні тэатральнага калектыву з Беластока.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

# У раёне Тыханюка

Сельскагаспадарчая служба ў гмінах з'яўляецца асноўным арганізатарам сельскагаспадарчай вытворчасці. Ад узроўню яе працы ў многім залежыць ўкараненне навейшых метадаў гаспадаркі, сталае павышэнне ўраджаяў і развіццё жывёлагадоўлі.

У Гайнаўскай гміне сельскагаспадарчая служба складаецца з 10 чалавек, у тым ліку ёсць 6 інструктараў. Кожны з іх мае акрэслены раён.

Вось, напрыклад, раён інструктара Уладзіміра Тыханюка. Апякуецца ён вёскамі Пасечнікі Вялікія, Хітрая, Барок, Катоўка і Ліпіны. Аграном Уладзімір Тыханюк ведае ўсіх гаспадароў у гэтых вёсках, служыць ім шматлікімі прафесіянальнымі парадамі, дапамагае ў планаванні развіцця сельскай гаспадаркі, а асабліва жывёлагадоўлі. Пасля індывідуальных размоў у лістападзе і снежні гаспадары гэтага раёна пастанавілі купіць 15 маладых свінаматак і 20 штук цялят расы НЦБ. У мінулым годзе раён Тыханюка атрымаў 40 штук цялят расы НЦБ. У яго раёне жывёлагадоўля не знізілася ў параўнанні з з 1974 годам.

Уладзімір Тыханюк асабліва многа ўвагі ўдзяляе справам конкурсу „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная", арганізацыі сялянскіх суполак і пашырэнню сельскагаспадарчай спецыялізацыі. І яна ў раёне агранома Тыханюка праяўляецца ў жывёлагадоўлі. А вось прыклады: Ала Панцэвіч з Ліпін спецыялізуецца ў гадоўлі парасят, якія пасля трох месяцаў прадае на адкорм. На працягу года выгадоўвае яна да 90 штук такіх падсвінкаў. У Пасечніках Вялікіх Мікалай Красько (сын Хведара) спецыялізуецца ў авечкагадоўлі. Цяпер у яго 90 штук авечак. Мікалай Галёнка (сын Хведара) з гэтай жа вёскі спецыялізуецца ў гадоўлі малочных кароў і ў адкорме маладняка. Трымае ён 9 кароў. Ад кожнай каровы надойвае па 3000-3200 літраў малака. Дзяржаве на працягу года прадае па 16 тысяч літраў. Яго дваюрадны брат — Пётр Галёнка спецыялізуецца ў адкорме свіней. У год адвозіць на базу каля 40 штук кормнікаў. Распачынаюць спецыялізацыю і іншыя гаспадары.

Цяпер, у зімовы перыяд, калі сяляне маюць больш вольнага часу, інструктары сельскагаспадарчай службы вядуць заняткі па сельскагаспадарчай адукацыі.

У Гайнаўскай гміне арганізавана 5 пунктаў вучобы. У адным з іх, у Арэшкаве, заняткі на тэмы вырошчвання сельскагаспадарчых культур, развіцця жывёлагадоўлі, эканомікі гаспадаркі, БГП і ведаў аб Польшчы і свеце вядзе аграном Уладзімір Тыханюк. Тры разы ў тыдзень прыходзіць на яго лекцыі 20 чалавек. Пасля заканчэння 130-гадзіннага курса яго ўдзельнікі атрымаюць пасведчанні „Кваліфікаваны гаспадар".

(мх)

# ФАЛЬКЛОР

РЭКРУЦКАЯ




*Вышла, вышла чорна хмара,*
*а за ею сіня.*
*Породіла біедна вдова*
*солдацкого сына.*
*Породіла біедна вдова*
*солдацкого сына.*
*Нэ поспіела она ёго*
*на ручэнькі взяті —*
*запісала вся громада*
*в рэкруты оддаті.*
*Запісала вся громада*
*в рэкруты оддаті.*
*Нэхай бэрут, нэхай пішут*
*тые п'янічэнькі,*
*Штодень, штоноч п'ют, гуляют,*
*а ўдому нэ дбают.*
*Штодень, штоноч п'ют, гуляют,*
*а ўдому нэ дбают.*

*А колі ж ты, мой сыночку,*
*прыедэш у гості?*
*— Як выросне травічэнька*
*ў сенюх на помості.*
*Як вырасне травічэнька*
*ў сенюх на помості.*
*Росла, росла травічэнька,*
*стала посыхаті.*
*Ждала, ждала маті сына,*
*та й стала плакаті.*
*Ждала, ждала маті сына,*
*та й стала плакаті.*
*Злетіў піевэнь на ганочок,*
*крыкнуў: „Кoку-рэку!"*
*Нэ обачыш, маті, сына*
*од ныні до віеку.*
*Нэ обачыш, маті, сына*
*од ныні до віеку.*

Ад Шумарскай Мар'і, 46 год, родам з вёскі Койлы, жыве ў вёсцы Буды ў Белавежскай пушчы, запісаў 12 кастрычніка 1976 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

# ЮЗЭФ ПАЧОСКІ 1864-1942

(Працяг са стар. 1)

ці навуковыя доследы, а вынікі публікаваць у навуковых часопісах. Звяртае на сябе ўвагу іншых вучоных. Пачынаюць яго цаніць. Перад тым, як прыехаў у Польшчу, даследаваў флору далін Дона, Дняпра, Днястра, Дуная, Буга, затым Каўказа, Крыма, Букавіны, Татраў. Быў найвыдатнейшым знаўцам херсонскіх стэпаў. Кіраваў стэповым запаведнікам Асканія-Новая. У апошніх гадах XIX ст. выйшла з друку напісаная ім манаграфія флоры Палесся. Пачоскі быў таксама выдатным знаўцам біялогіі пустазелля і барацьбы з ім. У гадах 1918-1922 на сельскагаспадарчым аддзяленні Херсонскага палітэхнічнага інстытута як прафесар гэтай установы вёў першыя ў свеце лекцыі па фітасацыялогіі.

У верасні 1923 г. праф. Пачоскі прыязджае ў Польшчу, каб кіраваць надлясніцтвам „Запаведнік" у Белавежскай пушчы, г.зн. тэрыторыяй, якая потым ператварылася ў нацыянальны парк. Цяжкі гэта быў перыяд у працы прафесара. Недахоп статута запаведніка перашкаджае кіраваць ім. Начальнікі Пачоскага ўзурпіруюць сабе права ўязджання на ахоўваемую тэрыторыю аўтамабілямі, але прафесар бароніць яе як можа. Аднойчы нават стаў у варотах запаведніка са стрэльбай і прыгразіў прабуючаму ўехаць начальніку, што будзе страляць. Зразумела, што не абышлося без адпаведных вывадаў, але Пачоскі дасягнуў свайго. У такой атмасферы прафесар арганізуе пастаянныя даследаванні над флорай пушчы. Ва ўзросце звыш 60 гадоў патрапіў прайсці штодзённа лесам ад 15 да 20 км. У Белавежы разбудоўвае свае фітасацыялагічныя канцэпцыі, а таксама пашырае веданне дынамікі лясных комплексаў. Удаваднияе карысці, якія плывуць з вядзення прасячной гаспадаркі ў лісцяных лясах. У Белавежы ствараецца адна з найбольш каштоўных прац Пачоскага — манаграфія белавежскіх лясоў. Не без значэння і заслугі прафесара ў стараннях аб забеспячэнні белавежскага запаведніка юрыдычным актам як самастойнага доследнага цэнтра.

Хаця Ю. Пачоскі кіраваў „Запаведнікам" да 1928 г., у 1925 г. пачынае працаваць прафесарам універсітэта ў Познані. Лекцыі чытае тут да 1931 г., калі за падпісанне брэсцкага пратэсту санацыйныя ўлады звальняюць яго з працы. Тады прафесар купляе пад Познанем невялікую гаспадарку, якую ператварае ў прыкладны садаводчы цэнтр, і вядзе ў ім назіранні над экалогіяй фруктавых дрэў, а таксама марозаўстойлівасці. У 1938 г. вяртаюць яму званне прафесара і надаюць яшчэ званне доктара „honoris kausa". Пачоскі ва універсітэце працуе да 1939 г. Паміраe 14.II. 1942 г. у Сераслаўі, што каля Познані.

Юзэф Пачоскі апублікаваў каля 300 прац. Апісаў 14 новых відаў раслін. 4 расліны названы яго прозвішчам. Быў не толькі батанікам. Цікавіўся энтамалогіяй, арніталогіяй, лесаводствам, гісторыяй навукі... У кожную галіну навукі, якой займаўся, патрапіў унесці штосьці новае, арыгінальнае. Атрымаў найвышэйшыя навуковыя званні, хаця ніколі не закончыў ніякай вышэйшай навуковай установы, не меў нават атэстата сталасці.

П. Байко

# Заблудаўскія паслугі

У Заблудаве шмат такіх устаноў, якія добра служаць усёй ваколіцы. Малачарня, пякарня, спулдзельчы банк, пункты гандлю, рамесных паслуг і гарсетнае прадпрыемства адыгрываюць тут вялікую ролю. Нават рэстаран ГС-у робіцца ўсё больш папулярным. Можна там з'есці добры абед. Мае ён штораз большы асартымент мясных блюд. ГС займаецца свінагадоўляй і мяса выкарыстоўвае на патрэбы сваёй гастраноміі. У мінулым годзе было адкормлена 30 штук свіней, згодна з планам, у бягучым годзе будзе іх 150. Рэстаран падрыхтоўвае таксама рэгенерацыйныя супы для рабочых заблудаўскага СКР-у, малачарні і рабочых, якія будуюць у Рыбалах аграмадную птушкаферму.

Шмат добрых слоў можна сказаць пра заблудаўскую пякарню. Яна забяспечвае хлебам усе крамы гміны Заблудаў. Мае магчымасць частку сваёй прадукцыі, а перш за ўсё пячэння, прывозіць у беластоцкія крамы, але ў гэтай справе, як сцвярджае прэзас ГС у Заблудаве таварыш Зубрыцкі, цяжка дагаварыцца з ВСС-ам у Беластоку.

Два пункты „Практычнай пані" — у Заблудаве і Рыбалах дапамагаюць людзям у сямейных урачыстасцях, пазычаючы талеркі, шклянкі, відэльцы, кілішкі і іншы посуд. Вялікім зацікаўленнем сярод жанчын карыстаюцца кулінарныя курсы крою і шыцця.

У гміне адчуваецца востры недахоп кавальскіх паслуг. Ёсць добрая кузня, але, на жаль, няма ахвотных, каб узяцца за гэтае рамяство. Няма таксама гарбароў.

(мх)

# Ці ведаеце, што...

...ваяводская партыйная арганізацыя ў Беластоцкім ваяводстве налічвае 37 800 членаў і кандыдатаў. У мінулым годзе паасобныя партыйныя арганізацыі прынялі ў свае рады 2 408 кандыдатаў ПАРП.

...сельскагаспадарчыя гурткі ў Беластоцкім ваяводстве згуртоўваюць 71 907 сялян, у тым ліку 34 930 вясковых жанчын. Сельгасгурткі існуюць у 78% беластоцкіх вёсак.

(ця)

(Працяг са стар. 2)

# Пасля прэзідэнцкіх выбараў

вялікія даходы; за Форда — большасць служачых і асоб з сярэднімі і высокімі даходамі.

Звяртае на сябе ўвагу і такая акалічнасць. У ЗША налічваецца звыш 150 мільёнаў чалавек, якія маюць права галасаваць. Але прагаласавала, згодна з папярэднімі ацэнкамі, усяго толькі 53,3 працэнта выбаршчыкаў (у параўнанні з 63 працэнтамі ў 1960 годзе і 55,4 працэнтамі ў 1972 годзе). Апатыя — характэрная рыса амерыканскіх выбараў. Многія справядліва лічаць, што паміж вядучымі партыямі па сутнасці няма розніцы, што абедзве яны не вырашаць надзённых праблем краіны і таму проста не ўдзельнічаюць у выбарах.

А. Ц.

*ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ*



*Антон Саковіч — вядомы дзеяч БГКТ у Міхалове.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## LED ZEPPELIN



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвалі:** Э. Маркоўская, Д. Мразоўская, Б. Врублеўская, М. Заянчкоўская, А. Банькоўскі з Бельска, Г. Гаінская, Г. Капчэская са Страблі.

## ЧАЛАВЕК І ХВАРОБЫ

Каля 30 гадоў таму назад у Амерыцы пачаліся надзвычай цікавыя доследы над залежнасцю паміж рысамі характару і захворваннямі на розныя хваробы. Доктар Караліна Томас даследвала больш чым 1000 студэнтаў медыцынскай акадэміі ў Балцімoры, а пасля гэтага сачыла далейшае іх жыццё, калі ўжо яны пачалі працаваць прафесіянальна.

Сёння супрацоўнікі др Томас маюць багатую картатэку дадзеных, якія датычацца залежнасці паміж псіхічнымі і фізічнымі рысамі паасобных людзей і схільнасцю да розных захворванняў, такіх, як, напрыклад, артэрыясклероз, павышаны ціск крыві, рак, псіхічныя хваробы, а таксама схільнасці да самагубстваў.

У даследваемай групе (большасць з гэтых людзей сёння ва ўзросце ад 35 да 60 год) 131 асоба захварэла на адну з адзначаных вышэй хвароб, 47 памерла, а 16 закончыла жыццё самагубствам.

Як і трэба было спадзявацца, ахвяры самагубстваў і псіхічных хвароб ужо раней выказвалі схільнасць да дэпрэсійных станаў і нервовага напружання. Самагубцы належалі да групы найбольш трывалых курцоў; найчасцей былі гэта людзі худыя і касцістыя. У сваю чаргу ахвяры псіхічных хвароб належалі да групы аматараў чорнай кавы і ў большасці цярпелі на бяссонніцу.

Выявілася таксама, што высокі ўзровень халестэрыну ў крыві сам па сабе не з'яўляецца паказчыкам хваробы сэрца. У ахвяр хвароб сэрца сцверджаны на самай справе высокі ўзровень халестэрыну, але складалі яны ўсяго невялікі працэнт усёй групы „халестэрынаўцаў".

У той жа час адрознівалі іх вельмі выразна акрэсленыя рысы: схільнасць да дэпрэсіі, нервовае напружанне, рэагаванне гневам на розныя канфліктныя сітуацыі. Мелі яны таксама схільнасць да бяссонніцы, будзіліся рана з пачуццём стомленасці, належалі да слабейшых студэнтаў у сваіх групах.

Найцікавейшым аднак аказалася выразная сувязь паміж тыпам чалавека і захворваннем яго на рака. Людзі, якія пазней захварэлі на рака, выказвалі найменшую схільнасць да дэпрэсіі і нервовага напружання. Яны былі спакойныя, мала агрэсіўныя, далікатныя. Але падобна, як самабойцы і псіхічна хворыя, прызнаваліся, што не маюць абсалютна ніякіх пачуццёвых кантактаў з бацькамі. Гэтыя вынікі даказалі таксама, што доўгатрывалае нервовае напружанне можа прывесці ў канцы да гарманальных змен і аслаблення імуналагічнай сістэмы.

**Эскулап**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, выйшла я замуж дзевяць гадоў назад. Быў гэта спакойны, сімпатычны, здавалася, без ніякіх закідаў чалавек. І жылі мы пяць год шчасліва. Нарадзілася ў нас двое дзяцей, атрымалі мы добрую кватэру. Але захацелася мужу больш зарабіць. Знайшоў тэрэновую працу. Дадому прыязджаў пераважна толькі на нядзелю, але, чаго да тэтай пары не здаралася, часта быў п'яны. Не падабалася мне ўсё гэта і я настайвала, каб муж ізноў вярнуўся на старую работу. І ўдалося мне гэта. Але, на жаль, быў гэта ўжо не той чалавек. Запіваўся даволі часта, позна вяртаўся дамоў. Сваркі давялі да таго, што і я, і дзеці сталі вельмі нервовымі. На дадатак я яшчэ моцна захварэла. Ляжала ў бальніцы, а потым паехала ў санаторый. Да дзяцей прыехала мая мама. Калі толькі я вярнулася, мама адразу паехала дамоў, бо ўжо вытрымаць з гэтым п'яніцам не магла. Мала таго, то муж стаў невыносна зайздросны і, калі лекар сказаў, што неабходна мне яшчэ раз паехаць у санаторый, ён катэгарычна запярэчыў, а нават сказаў, хай нават памірае, а не паедзе. Я ўжо зусім заламалася, не ведаю, што рабіць і як жыць далей.

Зіна з Беластока

Зіна, усяму вінавата гарэлка. І першае, што неабходна зрабіць, то ўсімі сіламі старацца паслаць мужа на лячэнне ў супрацьалкагольную парадню. Можа гэтае лячэнне верне зруйнаванаму чалавеку яго папярэднюю чалавечнасць. А калі і гэта не ўдасца, бадай найлепшым выйсцем будзе развод. Дбай пра сваё здароўе, у цябе ж ёсць дзеці!

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: С. з'яўляецца пенсіянерам. Ён хацеў бы пасяліцца на вёсцы, купіць невялічкую гаспадарку — каля 1 га і заняцца сельскай гаспадаркай. Ён працаваў дагэтуль у дзяржаўнай установе і мае невялікую пенсію. Ён цэлае жыццё правёў на вёсцы, працуючы на сельскай гаспадарцы, а толькі 6 год таму назад пераехаў у горад, ды і ў той час водпуск праводзіў на вёсцы ў брата, якому памагаў у вядзенні сельскай гаспадаркі. Такім чынам, ён мае адпаведныя веды для кіравання сельскай гаспадаркай. Ці можа ён купіць сельскую гаспадарку або ўчастак, на якім можа пабудавацца і стварыць гаспадарку?

АДКАЗ: Купіць або набыць іншым чынам уласнасць зямельнай нерухомай маёмасці можа толькі той, хто мае кваліфікацыі для вядзення сельскай гаспадаркі. Паводле распараджэння Рады Міністраў з 28 лістапада 1964 г. аб перанашэнні ўласнасці зямельнай нерухомай маёмасці, ліквідацыі супольнай маёмасці і наследаванні сельскіх гаспадарак (Дз. у. № 31 з 1972 г.) — кваліфікацыі для вядзення сельскай гаспадаркі мае той, хто скончыў сельскагаспадарчую школу або школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (przysposobienia rolniczego). Факт, што С. займаўся сельскай гаспадаркай, не з'яўляецца дастатковым, каб прызнаць, што мае ён кваліфікацыі для вядзення сельскай гаспадаркі. Таму не зможа ён набыць сельскую гаспадарку, хіба што скончыць прынамсі школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

## Этнаграфічнае акенца



*Прыгожа аздоблены драўлянымі карункамі дом Андрэя Шаховіча з Сакоў.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астронку! Што азначае, калі сняцца мышы? Мне нядаўна прыснілася, што я стаю са сваім дзедам у пограбе (пайшлі за нечым туды), а ён трымае нейкі кошык у руках і раптам з яго вылязае мыш. Я вельмі перапужалася.

Эва

Мне прыснілася, што я быў у Аргенціне. Прырода цудоўная. Падыходжу да ракі і бяру лодку. Думаю: паплаваю. Ну, і сеў. Распрануўся, хацеў пазагараць, паглядзець прыроду, адпачыць. Паплаваў, вяртаюся на бераг, а тут бачу, нехта ўкраў маю вопратку і няма ў што апрануцца. Думаю: што рабіць, як пайсці, я ж без вопраткі. Што можа абазначаць... гэты сон?

Грыша з Беластока

Астроне, мне прыснілася, што я была ў магазіне з самаабслугоўваннем і... крала там булкі і белы хлеб. Было гэта пячыва свежанькае, хрупкае і вельмі апетычнае. Але чаму я мела красці, калі ніколі ў жыцці нічога ў нікога не ўкрала?..

Бася

**Эва!** Нездарма ты перапужалася. Ёсць у цябе нейкі скрыты вораг (мыш), з-за якога могуць вынікнуць нейкія сваркі (мыш вылезла з карзіны), а ты гэтага не спадзяешся. Падрыхтуйся і разгледзься сярод сваіх сяброў.

**Грыша!** Ты быў у сне заграніцай, і гэта абазначала б добрую перамену ў тваім жыцці. Але... ты быў у лодцы адзін, а гэта абазначае страту нейкага блізкага сябра. Зрэшты, застаўся ж ты голы, дык глядзі, каб гэтая перамена не была занадта няпэўная для цябе.

**Бася!** Калі хто сапраўды крадзе ці забівае кагосьці, то яму гэта зазвычай не сніцца. А тое свежае пячыва азначае для вас здароўе і задавальненне.

**Астрон**




К сярэдзіне красавіка 1945 года нават нацысцкаму кіраўніцтву Германіі стала зразумела, што далейшае супраціўленне бессэнсоўнае. На штодзённых нарадах у стаўцы Гітлер то кідаўся ў істэрыку і абвінавачваў сваіх генералаў у здрадніцтве і баязлівасці, то абыякава, моўчкі выслухоўваў іх данясенні. Надзея на сепаратны мір з англа-амерыканцамі знікла, нягледзячы на тое, што іх прапускалі без бою. Рускія арміі прасоўваліся наперад вельмі хутка.

Гітлер патрабаваў неймаверных намаганняў на Усходнім фронце. Няма дакладных звестак аб тым, колькі загінула нямецкіх салдат на фронце ў гэтыя апошнія дні вайны, якіх ахвяр патрабавала ад цывільнага насельніцтва Германіі нацысцкае кіраўніцтва, якую матэрыяльную шкоду нанесла перш за ўсё самому германскаму народу завяршальная стадыя ваенных дзеянняў. Але тады, у апошнія красавіцкія дні 1945 года, у штабах савецкіх дывізій задача найбольш бяскроўнага ўзяцця нямецкіх гарадоў стаяла гэтак жа востра, як і задача іх найбольш хуткага ўзяцця.

Падраздзяленне Мірзаяна павінна было наступаць у авангардзе 185-й. Звесткі аб нямецкай абароне горада абмяжоўваліся тым, што ў Купеніцы стаяць часці дывізіі „СС" — „Ахова фюрэра".

Камандзір штурмавога атрада павінен быў атрымаць неабходныя разведданыя.

*

Група Мірзаяна ішла першай. Капітан Двалі вёў другую. Крок у крок, з інтэрвалам у пятнаццаць мінут. Разлік будаваўся на тым, каб у выпадку любой нечаканасці другая група змагла ўсё ж прайсці і выканаць заданне. У гэтым выпадку яе заданне спрасціцца — разведка і хуткі адыход да сваіх. Калі ж усё будзе добра і пройдуць абедзве групы, то другая прабярэцца ў горад і будзе карэкціраваць па радыё агонь нашай артылерыі.

Групы рухаліся кароткімі перабежкамі; выкарыстоўваючы спачатку лагчыны і варонкі ад бомб, а потым ужо, бліжэй да горада, хаваючыся ў шматлікіх акуратных дубровах і за рэдкімі домікамі і дачамі, даўно пакінутымі гаспадарамі.

Першую лінію нямецкай абароны мінулі паспяхова. Арам выбраў іменна тую дарогу, якая добра прастрэльвалася нашымі. Праўда, ён чакаў, што на гэтым участку немцы будуць больш пільныя. Але не было ніводнай затрымкі, калі не лічыць няўдачы Сытнікава, які парваў свой нямецкі мундзір аб калючы дрот.

Паводле задумы, група Мірзаяна павінна была выйсці да ваколіцы горада на ўвесь рост. Эсэсаўцы вярталіся з пазіцый... Гэта не павінна было насцярожыць немцаў.

Але ў нейкую долю секунды...

— Кладзіся! — напаўголасу скамандаваў Арам. — Кулямёт наперад. Ціха!

Разведчыкі зліліся з зямлёй.

Прайшло пяць мінут, дзесяць...

Падпоўз Габрыэль, горача зашаптаў у вуха:

— Таварыш маёр, хлопцы ззаду сігналяць: чаму спыніліся?

— Пачакай, дарагі, пачакай...

Арам уважліва глядзеў перад сабой, на горад, на ажурныя дахі будынкаў, падобныя на маленькія замкі з падручніка гісторыі. Але ён не спрабаваў штосьці разгледзець там, у горадзе. Яго ўвага, яго воля і думкі былі цяпер сканцэнтраваны на іншым.

Цяжкае, трывожнае адчуванне блізкай небяспекі раптам ахапіла яго, прымусіла спыніць групу. Не, гэта не было хваляваннем, якое звычайна бывае на заданні. Не было гэта і страхам: хваляванне можна было пагасіць, страх можна пераадолець. Але гэта адчуванне — адчуванне блізкай небяспекі не пагасіць і не пераадолець, пакуль не будзеш ведаць дакладна, чаму яно ўзнікла, пакуль не будзе вядома крыніца яго.

За гады работы ў разведцы Арам навучыўся распазнаваць свае пачуцці і валодаць імі. І яшчэ навучыўся ставіцца да прадчування ўсур'ёз, імкнуцца высвятліць, як пабочны, адкуль яно ўзялося, што канкрэтна за ім стаіць. Цяпер ён яшчэ раз крок за крокам у думках паўтараў увесь шлях групы. Ага! Ёсць! Калі праходзілі першую лінію нямецкіх траншэй, злева бліснула штосьці на сонцы. Не на зямлі, не, вышэй, на ўзроўні чалавечага росту. Шкло? У спешцы Арам не звярнуў на гэта ўвагі. Калі праціўнік не страляў — значыць, не выявіў. Што такое бляск шкла, калі чакаеш страляніны? І цяпер — цяпер бліснула зноў. Вось яно! Лінза бінокля! Вось крыніца гэтага раптоўнага адчування блізкай небяспекі. Немцы сочаць за імі. Сочаць. Спакойна. Вось чаму так лёгка ўдалося прайсці пярэдні край. Што рабіць? Група — відаць, абедзве — у фашыстаў як на далоні.

**(Працяг будзе)**

Імпартгумар

# Падарунак таты

Прайшло два гады, як Пампурасы развяліся, а ён яшчэ ні разу не наведаў свайго сына Артура. І вось сёння ён бегаў па магазінах і купляў яму падарункі: цукеркі, пячэнне, два кілаграмы паштэту. Плаціш аліменты і не ведаеш, куды гэтыя грошы ідуць. Можа, дзіця галадае.

Не паспеў Пампурас уступіць на панадворак дома, дзе жыла яго былая жонка з сынам, як бацькоўскае пачуццё запаланіла яго грудзі.

— Добры дзень, — як з-пад зямлі вырас хлопчык.

— Дзень добры, галубок, — ён узяў дзіця на рукі і пацалаваў. — Сумаваў па мне?

— Ага, — дзіця затрапятала ў абдымках.

— Цукерак хочаш? — Пампурас выцягнуў з сумкі вялікі кулёк.

— Ага, — дзіця ажно вочы вытарашчыла.

— А пячэння хочаш?

— Ага.

— Вось і каўбаса, — ён павесіў на шыю дзіцяці каўбасу.

— Ай, ай! — цешылася дзіця. — Я занясу гэта дамоў. Зараз вярнуся.

Чакаючы хлопчыка, Пампурас закурыў. Што яшчэ прыемнае зрабіць для сына? Паехаць за горад? Малы яшчэ, а дарога далёкая. О, трэба разам сфатаграфавацца.

Узяўшыся за рукі, яны пайшлі да фатографа, прытуліўшыся адзін да аднаго і ўсміхаючыся, сталі перад апаратам. Лепшай памяткі бацьку не трэба, ды і дзіцяці прыемна будзе ўспомніць шчаслівыя хвіліны з бацькам.

— Мама, мама! — яшчэ на вуліцы, вырваўшыся ад Пампураса, дзіця падбегла да былой суседкі. — Мы з дзядзем Пампурасам сфатаграфаваліся. А колькі цукерак і пячэння прынёс мне дзядзя!

Былая суседка глядзела на Пампураса і ўдзячна ўсміхалася. Кісла ўсміхнуўся і Пампурас.

**Йозас Малашаўскас**

## Не дагадзіў

*У Бірулькіна Ігната*
*(Такіх дырэктараў цяпер і небагата)*
*Памочнікам Панкрат служыў.*
*І скажам прама, што на ўзроўні быў:*
*Бірулькін без яго — ўявіце толькі вы! —*
*Быў як без рук і нат без галавы.*
*Памочнік за яго ад рання да змяркання*
*Заўсёды вырашаў усе як ёсць пытанні:*
*Службовыя — за працаю ў канторы,*
*Гандлёвыя — у выхадны на рынку,*
*Курортныя — ля мора ў адпачынку,*
*Прыехаўшы у санаторый...*
*У сем гадзін пад'ём на фіззарадку —*
*Бірулькін: „Збегай за мяне, Панкратка!“*
*Талоны трэба атрымаць на ванну —*
*Ігнат — Панкрату: „Скокні: мне зарана!“*
*Памочнік гойсаў, выпінаўся —*
*Усё ўпрыскок, усё бягом:*
*Ігнату дагадзіць стараўся,*
*Нат на экскурсію паехаў за яго,*
*Ды тут не дагадзіў.*
*— З экскурсіі прывезлі*
*Фота ўсім на здзіў! —*
*Бірулькін дакараў Панкрата. —*
*А ты, лайдак, паленаваўся*
*І за мяне не сфа-та-гра-фа-ваў-ся!..*
*— Не змог, — цадзіў памочнік вінавата.*

*Вы скажаце: а дзе мараль?*
*Яна тут не ўмяшчаецца, на жаль.*

**Васіль Маеўскі**

# НІЎКА

*— Робіш фінт і праводзіш просты правай...*

### ПАЦЕХА

Маленькая Элачка атрымала за хатнюю працу па арыфметыцы двойку. Прыйшоўшы дадому, яна пацешае сваю маці:

— Не хвалюйся, мама, у нашым класе сёння не ты адна атрымала дрэнную адзнаку.

ГУМАР З ...

### ЯКАЯ З ІХ...

— Не, я ўжо не разумею, якая з нас дурная: я ці ты? — гаворыць пані служанцы.

— Думаю, панечка не трымала б у сябе дурной? — адказала служанка.

### ТЭЛЕГРАМА

Кастусь купіў у горадзе здаравенную свінню і, возячыся з ёю, спазніўся на цягнік. Каб быць у парадку, выслаў жонцы тэлеграму:

— Сёння на цягнік свінні не прынялі, прыеду заўтра.

...Быў неадказны. Не адказваў патрабаванням хеўры.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Веславы Бараноўскай з Пілатоўшчыны, Галены Карповіч з Юзафова, Анны Палешчук з Гарадка змяшчаем песню*

## Zbyt długo byłem sam

**słowa: Janusz Kondratowicz**
**muzyka: Piotr Figiel**
**śpiewa Jacek Lech**

Zbyt długo byłem sam
by w życie mocniej wejść
mało dobrych wspomnień mam
niechętnie patrzę wstecz

Jak nieproszony gość
u obcych stoję drzwi
miejsca na tym świecie dość
lecz nie mam dokąd iść

Dlatego
pomóż mi lepszy świat znaleźć gdzieś
po prostu
parę słów kilka zdań zamień w wiersz
spojrzeniem
otwórz mi barwy dnia
spraw by nigdy
za radością
nie szła łza

Dlatego
zanuć mi parę nut które znasz
bez słowa
podziel się tym czym chcesz tym co masz
jeżeli
jest mi źle podaj dłoń
zapomnieniem
i nadzieją
dla mnie bądź

Przekreślę kilka dat
nie wspomnę paru miejsc
będę za to wiedział jak
swą młodość dalej nieść

### СВЯДОМЫ

— Што ж ты чытаеш, сынок?.. А, аб выхаванні дзяцей...

— Так, мамачка! Хачу праверыць, ці правільна мяне выхоўваеце.

### У АМБУЛАТОРЫІ

— Ну, як з пабітым? — пытае хірург асістэнта.

— У парадку. Адна рана смяротная, а іншыя можна вылечыць.

### СУЧАСНАСЦЬ

— На сёмай старонцы не закахаліся, на пятнаццатай не пацалаваліся... І гэта сучасны раман?!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Містэр Бэдзіт, злажыўшы газету, звяртаецца да жонкі:

— Ведаеш, Мэры, я прыйшоў да вываду, што палавіна членаў нашага ўраду бяздарныя прайдохі.

— Але ёсць яшчэ другая палавіна, Майкл.

— Правільна! Гэтыя на ўсё здольны!..

*

У час палёту сцюардэса частуе рымскага папу бутэрбродамі. За ёй другая з чарачкамі:

— А можа, святы ойча, нешта вып'еце?

— А скажыце мне, як высока мы ўзняліся?

— Восем тысяч метраў ад зямлі.

— Тады дзякую. Надта блізка майго шэфа.

*

Адвакату вельмі падабаўся яго падабаронны, які рабіў уражанне нядрэннага хлопца.

— Калі выйдзеце з турмы, — сказаў адвакат, — я б з задавальненнем з вамі сустрэўся і пастараўся вам памагчы...

— Гэта вельмі міла з вашага боку, — адказаў хлопец, — але ўзломліванне сейфаў — вельмі тонкая рэч. Тут трэба мець талент ад прыроды!

# Курёзы

### ДАРАГОЕ ЎШАНАВАННЕ

Праслаўленаму музыканту Г.Ф. Гендэлю Аксфордскі універсітэт прысвоіў званне ганаровага доктара. Паведамляючы аб гэтым, яму напісалі, што за дыплом патрэбна заплаціць.

— Як? — узрушыўся Гендэль. — За тое, каб стаць калегай гэтых пустазвонаў, я павінен яшчэ і плаціць? Ніколі!

### ДЫПЛАМАВАНЫЯ ЗЛАДЗЕІ

У сучасны век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі нельга быць неадукаваным чалавекам. Кожная прафесія патрабуе спецыяльных глыбокіх ведаў і багатага вопыту, а колькасць і разнастайнасць саміх прафесій расце і пашыраецца.

У Буэнас-Айрэсе паліцыяй былі выяўлены спецыяльныя школы па падрыхтоўцы дыпламаваных... зладзеяў. Вучоба там пастаўлена, як гаворыцца, на шырокую нагу. Маюцца вучэбныя класы для правядзення заняткаў, наглядныя дапаможнікі ў выглядзе ўзораў сумак, чамаданаў, замкоў і адмычак для іх, чалавечыя манекены з кашальком у кішэні, які вучань на ўроку павінен сумець выкрасці ціха і спрытна. Школа мае таксама схемы магазінаў, гандлёвых баз, банкаў, вакзалаў і іншых установ, якія звычайна падвяргаюцца нечаканаму налёту адукаваных рабаўнікоў.

Вось гэта прыкметы навукова-тэхнічнай рэвалюцыі!

Між намі

*Чалавек — гучыць горда. Часам занадта.*